I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Сакавік-2 2016

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## «Шмат чаго «ацечаственная» сістэма адукацыі ва мне выправіла, але, відаць, не ўсё, бо ў трыццаць я зноў перайшоў на мову»



стар. 4

### Двое расейцаў абрабавалі жыхара Марса

стар. 3

### Сілавым структурам бракуе ведання мовы

стар. 3

### «Трапіла ў Леніна»: гамяльчанка забіла сужыцеля нажом у сэрца.

стар. 6

# У дзіцячых садках Гомеля дзяцей фатаграфуюць у расійскай ваеннай форме

***У рэдакцыю TUT.BY звярнуўся тата пяцігадовага хлопчыка. Малы ходзіць у адзін з гомельскіх дзіцячых садкоў, дзе яго рэгулярна прапануюць сфатаграфаваць у ваеннай форме. Прычым нават не ў беларускай, а расейскай. «Навошта ў такім раннім узросце прывіваць любоў да чужой радзімы? І наогул рабіць акцэнт на ваеннай тэматыцы?» — не разумее бацька хлопчыка.***

— Трэці год наша дзіця ходзіць у сад, і кожны месяц-два там прапануюць сфатаграфавацца. Для выбару вобраза прыносяць буклеты з прыкладамі здымкаў. І амаль заўсёды прапануюць сфатаграфаваць дзяцей у форме вайскоўцаў: рыцараў, гусараў, салдат Другой сусветнай вайны, сучасных армейцаў. Але я супраць прапаганды ваеншчыны і гвалту, тым больш у дзіцячым садку.

Але чытача здзіўляюць не толькі ваенныя вобразы.

Паводле яго слоў, дзецям ні разу не прапаноўвалі зрабіць здымак у беларускай ваеннай форме. На выбар — толькі ваенная форма узброеных сіл Расіі, з расійскім сцягам. Калі прапаноўваюць вобраз рыцара, то ў даспехах Маскоўскага княства, калі гусара — то ў форме Расійскай імперыі.

— Такое адчуванне, што з дзяцей рыхтуюць абаронцаў Расіі, а не Беларусі. Але гісторыя Беларусі багатая сваімі героямі. Замест маскоўскіх віцязяў можна сфатаграфаваць дзяцей у вобразе воінаў ВКЛ (даспехі адрозніваюцца), замест расійскіх гусар выкарыстоўваць выявы крылатых гусар ВКЛ і Рэчы Паспалітай, якія доўгі час былі самай моцнай арміяй Еўропы. Цяпер Беларусь — суверэнная дзяржава са сваёй арміяй. Навошта ж дзецям прывіваць любоў да гісторыі чужой краіны, а не да сваёй? — не разумее тата.




У папярэднія гады ён проста не замаўляў дзіцяці фатаграфіі ў вобразе вайскоўцаў.

— Але пасля мінулага Дня Перамогі сыну два месяцы ўсюды мроіліся ворагі, немцы, фашысты. Ён стаў больш агрэсіўным. Пастаянна высвятляў, хто дрэнны, а хто добры. Спадзяюся, ідэолагі дзіцячых садоў пачнуць вучыць дзяцей міру, а не вайне, любові да сваёй Радзімы, а не да чужой, — кажа ён.

Загадчыца гомельскага дзіцячага сада, куды ходзіць сын чытача, кажа, што ва ўсіх фатографаў адміністрацыя патрабуе ліцэнзію. Паводле яе слоў, дзяцей фатаграфуюць толькі са згоды бацькоў, і тыя заўсёды былі задаволеныя.

— У нас ёсць і свая дзіцячая ваенная форма — для хлопчыкаў і дзяўчынак. Яна ахоўнага колеру, без сімволікі і іншай атрыбутыкі. Мы апранаем у яе дзяцей на ранішнік да 23 лютага і на гарадскі конкурс «Які цудоўны гэты свет». На нядаўнім ранішніку да Дня абаронцы Айчыны дзеці былі ў захапленні, ладзілі спаборніцтвы паміж камандай салдат і камандай спартсменаў.

Па словах загадчыцы, так у дзяцей выхоўваюць патрыятызм.

— Мы стараемся данесці да іх, што абараняць Радзіму — ганаровая адказнасць. Любячы маму, паважаючы бабулю, слухаючыся іх, мы абараняем Радзіму. Вядома, нашы дзеці разглядаюць карцінкі з ваеннай тэхнікай. Нядаўна рабілі падарункі татам — хтосьці пагоны, хтосьці самалёты — але гэта толькі ў старэйшых групах, дзе дзецям 5-6 гадоў.

Загадчыца тлумачыць, што фатографы не апранаюць дзяцей у ваенную форму. Іх здымаюць у звычайнай вопратцы, а потым робяць мантаж на камп'ютары. І такія фатаграфіі друкуюцца толькі са згоды бацькоў.

Псіхолаг: «Цалкам ізаляваць дзіця ад ваеннай тэмы нельга, гэта таксама шкодна»

Дырэктар і псіхолаг прыват-

нага псіхалагічнага цэнтра Алена Дубовік кажа, што ў кожнага дзіцяці свая псіхіка:

— Кагосьці такая фотасесія можа напалохаць, а кагосьці не. Але ў чым фатаграфаваць і калі, вырашаюць бацькі. І такія фотасесіі без іх згоды праводзіцца не могуць. Нейкаму аднаму з бацькоў такая ваенная фотасесія спадабаецца, нейкаму не, але абодва пункты гледжання маюць права на існаванне. Калі бацькі вельмі міралюбныя, талерантныя, настроеныя на беражлівыя адносіны да свету, для іх дзіцяці фатаграфія ў ваеннай форме будзе траўматычнай.

Алена Дубовік падкрэслівае, што патрыятызм — гэта не ваяўнічасць, а любоў да сваёй краіны і свайго роду. Аднак цалкам выключаць ваенную тэматыку бацькам не варта.

— Калі вы не даяце дзіцяці гуляць у танкі і пісталецікі, то танкам для яго стане скрыначка, а пісталецікам — палачка. Дзіця знаходзіць звонку адлюстраванне таго, што ў яго ёсць ва ўнутраным свеце. Напрыклад, тое, што яму расказваюць пра прадзядулю, які быў на вайне, або тое, што ён бачыў у нейкім фільме. У нашай генетычнай памяці і калектыўным несвядомым ёсць успаміны пра бясконцыя войны чалавецтва. Як дзіцяці прайграць перажываныя падзеі і зразумець, дзе дабро, а дзе зло? Гісторыя чалавецтва заснаваная на разбурэнні і тварэнні, і дзіця павінна разумець, што ёсць і тое, і іншае. Цалкам ізаляваць яго ад гэтай тэмы нельга, гэта таксама шкодна. Ваенныя дзеянні цяпер адбываюцца ў свеце, і вырасціць дзіця ў стэрыльных умовах не атрымаецца. Але можна выхоўваць у ім эмпатыю і спачуванне да іншых людзей.

*tut.by*

# Сілавым структурам бракуе ведання мовы

***Ці прыйдзе беларуская мова ў беларускія сілавыя структуры? Жыхар Гомеля, каардынатар грамадскай кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак даслаў ліст у аддзел унутраных спраў Савецкага раёна Гомеля, у якім звярнуў увагу на шматлікія памылкі ў беларускамоўным афіцыйным бланку ўстановы МУС і выказаў некаторыя прапановы:***

– Гэты бланк, наколькі я памятаю, не мяняўся ў іх ужо гадоў пяць. Калі я апошні раз звяртаўся з нейкім зваротам у МУС Савецкага раёна Гомеля, у іх бланку было шмат моўных памылак. Я тады прапанаваў ім правесці нейкую працу з супрацоўнікамі, каб падвысіць іх веданне беларускай мовы, яны ж дзяржаўныя служачыя. І варта выправіць бланк.




Ігар Случак атрымаў адказ, у якім паведамлялася, што памылкі выправілі і правялі размову з супрацоўнікам, які рыхтаваў бланк да друку. Што тычыцца іншых прапаноў, то гэта пытанні для службовага карыстання. Так патлумачылі грамадскаму актывісту.

«Наўрад ці там што зменіцца, – адзначыў Ігар Случак. – Бо і той адказ, які да яго прыйшоў, быў напісаны не зусім пісьменна».

*Васіль Кроква*

# Двое расейцаў абрабавалі жыхара Марса

***У аддзел унутраных спраў Лоеўскага райвыканкама звярнуўся жыхар вёскі Марс.***

Пенсіянер заявіў, што ў тры гадзіны дня ў яго хату праз незачыненыя дзверы зайшлі двое невядомых. Няпрошаныя госці скралі сумачку з дакументамі і ўцяклі. Праваахоўнікі затрымалі па падазрэнні ў рабаванні грамадзян Расіі 1984 і 1985 гадоў нараджэння. Выкрадзеныя рэчы канфіскаваныя, праінфармавалі ў МУС Беларусі.

*gp.by*

Вельмі вясёлы бацька назваў сына Іеговам толькі дзеля таго, каб на ягоным вяселлі пасмяяцца са сведкі.

# «Шмат чаго «ацечаственная» сістэма адукацыі ва мне выправіла, але, відаць, не ўсё, бо ў трыццаць я зноў перайшоў на мову»

***Беларускай мове мяне навучыла бабуля. Я гэта зразумеў нядаўна, калі слухаў стары аўдыёзапіс з сямейнага архіва. З магнітафона даносіўся рыпучы гук — старэйшы брат запісаў на плёнку маю балбатню. Калі я слухаў запіс, моцна ўразіўся, што ў пяць год я размаўляў па-беларуску. Гэта потым я пайшоў у школу, дзе мне «выправілі язык», а тады я размаўляў натуральна — як мяне навучыла баба Ганна.***

Калі ў старшых класах я пісаў сачыненне, настаўніца расейскай мовы выправіла «баба Ганна» на «баба Анна», хаця яна заўсёды была Ганнай. Не толькі гэта — шмат чаго наша «ацечаственная» сістэма адукацыі ва мне «выправіла», але, відаць, не ўсё, бо ў трыццаць я ізноў перайшоў на мову.

*Беларуская мантра*

Усё жыццё я чую мантру: «Беларуская мова — наша матчына мова, мова Купалы і Коласа. Яе трэба шанаваць і захоўваць. А теперь давайте поговорим о серьёзном».

Сёння от і высокі чыноўнік апраўдвае неўжыванне мовы ў судовай практыцы Коласам і Купалам. Маўляў, няможна на мове класікаў зачытваць прысуды забойцам. І мне хочацца даць яму па ілбе драўлянай лыжкай, якую я сам выразаў і якую пагрызла мая мыш Верачка. Я ўпэўнены, што і Колас з Купалам выразалі б лыжкі і далучыліся б да збіцця высокага чыноўніка. Разам мы б мо выбілі з яго башкі тую мантру, ці хаця б наставілі гузакоў у якасці кампенсацыі за маральныя страты. Мне от цікава, паважаны чыноўнік, калі ваша бабуля, прабачце мяне грэшнага, ішла ср.ць, яна пераходзіла на расійскую мову?

Я б не здзівіўся, калі б пачуў тое ад трактарыста ці даяркі. Але ад таго, хто, як у нас кажуць, вялікім чалавекам стаў, хочацца чакаць большай мудрасці і большай адказнасці.

А нашы чыноўнікі — гэта наша бяда. Яны ўвабралі ў сябе самыя паганыя беларускія якасці.

І пакуль вагаюцца, як увесці адну дадатковую гадзіну беларускай мовы, каб ніхто не пакрыўдзіць і не згубіць свае месцы, вырастае новае пакаленне беларусаў, для якіх Купалу трэба чытаць са слоўнікам.

*«Уведамляю вас, што мы пака жывы»*

От я раней думаў, што звужэнне ўжытку беларускай мовы да пэўных сфераў — гэта такая глыбінная філасофія,



якая ўзнікла як механізм самазахавання. То бок, калі нашыя самыя мудрыя прашчуры адчулі небяспеку для мовы, яны ноччу ў лесе вакол свяшчэннага вогнішча зладзілі нараду і вырашылі схаваць мову ў тыя мантры пра Коласа і Купалу, каб пры спрыяльных умовах, калі спёка спадзе і пойдзе дождж, мова пачала расці з сухоха насення і зноў забуяла. Але не, час ідзе, а расійскія серыялы паказваюць у кожнай вясковай хаце. І беларуская мова вымываецца нават стуль, дзе яна трывала сядзела.

Мая знаёмая пісьменніца неяк сказала, што любіць жывую вясковую мову і не ўспрымае тую, якой гавораць у рэдакцыях газет. Я таксама часта наракаю на слоўнікі, што яны недастаткова прудкаўскія. Аднак рэгіянальныя жывыя гаворкі не маюць рэзерву для ўтварэння нацыі. Мова рэдакцый такі рэзерв мае. Гэтак сталася з усімі мовамі свету — яны ўсярэдніліся да зручнай і зразумелай ўсім формы. Не выключэнне і «великий и могучий русский язык». Яму толькі больш пашчасціла на нашай зямлі. Праз шырокі распаўсюд на тэлебачанні, у афіцыйнай сферы да яго хутка прызвычаіліся, і ніхто з беларусаў не жаліцца, што расійская мова недастаткова жывая, не такая, як у расійскіх сёлах.

А беларускай літаратурнай мове не пашчасціла зусім. Мая маці, якая выдатна ўмее размаўляць на нашай рэгіянальнай варыяцыі беларускай мовы, не можа чытаць беларускія кнігі і газеты — літаратурная мова для яе — напаўзамежная. Мама сустракае мяне з аўтобуса словамі:

— І кашуля вісіць, і дурань дрыжыць.

А калі мы праходзім па беразе Прыпяці, кажа:

— Во, ужо крыгі плывуць.

— А што такое крыгі?

— Крыгі і е крыгі.

Але яна звоніць мне і просіць дапамагчы напісаць пляменніку сачыненне:

— Бо я беларускую мову не ведаю.

Яе не ведае і мой пляменнік, хоць вучыцца ў маёй школе, у маёй настаўніцы. У нас з пляменнікам розніца ва ўзросце — дваццаць гадоў. Шаноўныя чыноўнікі з Міністэрства адукацыі, от адкажыце мне, як такое можа быць?

А калі будзе чаргові перапіс насельніцтва, маці запіша сябе носьбітам расійскай мовы, бо яе яна ведае, як «па-граматнаму» сказаць «я люблю картоплю і лісянкі». А як на мове Купалы — не.

Атрымліваецца, што ёсць народная мова, ёсць «правільная» расійская, на якой дакументы складаюць. А яшчэ ёсць беларуская, але то мова класікаў, а не наша. Яна не мае ўжытку: на ёй не вядзецца справаводства, не зачытваюцца прысуды забойцам, не паказваюць серыялы. Адно толькі — яна матчына, і яе чамусьці трэба захоўваць.

У мяне ёсць ліст, які ў 1937 годзе напісаў майму прадзеду прудкаўскі сваяк Васіль. Добра відаць, што ўжо тады беларускі селянін імкнуўся быць «граматным»: «Уведамляю вас, што мы пака жывы».

Васіль працаваў касірам у Аўцюках, «уволился з работы і здавал дела ў Мазыры, был там целую неделю». Чалавек ламаў сваю мову, каб здаваць «дела» і мець працу. Паперкі ж па-расійску запаўняць трэба.

Але ў месцах, якія не тычацца службовых спраў, Васіль пераходзіў на беларускую мову: «Учора яна прасіла, каб мы напісалі табе, як яна мучыцца. Яна кажа, каб Андрэй быў, ён бы дзесяць раз прыйшоў мяне даведацца».

Бы розныя людзі пісалі той ліст.

*Поп саграшыў, а дзяка вешаюць*

І, шаноўныя «гасударавы людзі», не трэба валіць з хворай галавы на здаровую, кажучы, што ў нас ёсць выбар, як размаўляць. Моўная палітыка — не справа даярак, трактарыстаў і касіраў з Аўцюкоў, а ваша. Як той кажа, поп саграшыў, а дзяка вешаюць. Расійская мова не была маім выбарам, бо да пяці год я размаўляў па-беларуску, пакуль не трапіў у дзяржаўную сістэму адукацыі. Я перайшоў на расійскую, наадварот, таму, што ў мяне не было іншага выбару.

За год, што я жыву на Палессі, у мяне склалася ўражанне, што палешукі сумуюць па мове. Усюды ёсць вырадкі, але агульнае стаўленне да беларускіх словаў вельмі прыязнае. Прадаўчыха шырока ўсміхаецца, калі мы з сябрам уваходзім у краму, і гучна вітае нас:

— Добры дзень, шаноўныя.

Стрыечны брат, які да мовы ставіўся абыякава, пасля дзвюх дыскусій са мной едзе на заробаткі ў Расію і вучыць там калегу-таджыка беларускім словам. Кажа яму:

— Што ты як чурка? Кружка, кружка… Карэц!

Аксана, якая мае дыплом філолага, моцна здзіўляецца, што беларуская мова — не правінцыйнае адгалінаванне расійскай:

— Как так? Нас же учили! Нас же учили…

Наступным разам яна кажа мне:

— Прывітанне! А можна я буду размаўляць з табой па-беларуску?

Можна. Размаўляй са мной па-беларуску.

*Андрусь Горват, Прудок (Калінкавіцкі раён)*

# Мужчына, які павесіў цяжарную сабаку, аштрафаваны на 4,2 млн

***Суд Рэчыцкага раёна пастанавіў аштрафаваць на 20 базавых велічынь мужчыну, які павесіў ўласную цяжарную сабаку, паведаміла прэс-сакратар Гомельскага абласнога суда Вольга Барсукова.***

7 студзеня недалёка ад вёскі бранёй Рэчыцкага раёна мясцовая жыхарка падчас прагулкі па лесе ўбачыла жудасную карціну: на дрэве была павешана цяжарная сабака. Дзяўчына напісала заяву ў міліцыю.




У ходзе следства падазрэнне трапілана 51-гадовага мясцовага жыхара. Увагу міліцыянтаў прыцягнула тое, што раней з падворка мужчыны ўвесь час разносіўся сабачы брэх, а падчас абыходу стаяла цішыня. Гаспадар дома прызнаўся, што некаторы час таму яго сабака панадзілася прабірацца на чужыя падворкі і нападаць на свойскую птушку. З-за гэтага ў мужчыны пачаліся праблемы з суседзямі, таму ён вырашыў пазбавіцца ад жывёлы. Спосаб прыдумаў не самы гуманны: адвёў у лес і павесіў. Цела хацеў пахаваць, аднак выкапаць яму ў мерзлай зямлі не змог. Таму пакінуў усё як ёсць і пайшоў дадому.

На падставе арт.15.45 КаАП Рэспублікі Беларусь (жорсткае абыходжанне з жывёламі) мужчыну трэба будзе выплаціць штраф у памеры Br4,2 млн.

*БелТА*

# Жанчына, што парэзала мужа за «не так набытага селядца», атрымала пяць гадоў абмежавання волі

***Суд Цэнтральнага раёна Гомеля вынес прысуд па крымінальнай справе 66-гадовай жыхаркі абласнога цэнтра, якая абвінавачвалася ва ўчыненні злачынства згодна з ч. 1 арт. 147 КК (нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў). Пацярпеў яе муж.***

Суд Цэнтральнага раёна Гомеля вынес прысуд па крымінальнай справе 66-гадовай жыхаркі абласнога цэнтра, якая абвінавачвалася ва ўчыненні злачынства згодна з ч. 1 арт. 147 КК (нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў). Пацярпеў яе муж.

Як паведамляе прэс-служба Гомельскага абласнога суда, жанчыне, раней не судзімай, прызначанае пакаранне ў выглядзе пяці гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Прысуд не ўвайшоў у законную сілу, можа быць абскарджаны і апратэставаны.

Злачынства было ўчыненае ў лістападзе. Муж абвінавачанай пайшоў на рынак за селядцом, грошы папрасіў у жонкі. Муж і жонка вялі асобныя бюджэты. Жанчына дала грошы з умовай, што муж праверыць у банкамаце сваю картку, — раптам яму ўжо пералічылі грошы. У выпадку адсутнасці грошай на картцы ён мог выкарыстаць грошы жонкі. За дзеяннямі мужа яна назірала з балкона і ўбачыла, што мужчына не праверыў наяўнасць сродкаў на картцы ў банкамаце.

Калі мужчына вярнуўся дадому з селядцом, пачаўся скандал, жанчына кінулася на мужа з нажом і прычыніла яму цяжкія цялесныя пашкоджанні.

*БелаПАН*

# «Трапіла ў Леніна»: гамяльчанка забіла сужыцеля нажом у сэрца.

***Гамяльчанка, якая ўдарыла сужыцеля у грудзі нажом, паўстане перад судом, паведамілі ў Гомельскім гарадскім аддзеле Следчага камітэта.***

Мужчына і жанчына пазнаёміліся ў канцы 2015 года. Спачатку ён займаўся рамонтам у яе кватэры, а потым з-за адсутнасці ўласнага жылля і зусім застаўся там жыць. Аднак з часам кватэрнае пытанне стала частым чыннікам скандалаў. Чарговая сварка здарылася на стары Новы год. Жанчына паспрабавала выгнаць мужчыну, аднак у адказ пачула: «Я нікуды не пайду, можаш мяне забіць». Пасля гэтага гаспадыня кватэры схапіла нож і ўдарыла сужыцеля проста ў сэрца.

Апамятаўшыся, жанчына, якая працавала медсястрой, паспрабавала выратаваць мужчыну, аднак ён памёр амаль імгненна. Апошнімі словамі былі: «Трапіла ў Леніна». Як аказалася пазней, у яго на грудзях была татуіроўка з выявай Ільіча.

Справа перададзеная ў суд. Жанчыне пагражае да 15 гадоў турмы.

*БелТА*

# На «Гомельпрамбудзе» знізілі зарплаты і звольнілі двух нязгодных рабочых

***Работнікі прадпрыемства «Гомельпрамбуд» Віталь Кандрашоў і Яўген Ляўшоў былі звольненыя без выканання патрабаванняў заканадаўства пасля таго, як не згадзіліся на зніжэнне тарыфнай стаўкі на 20%, паведаміў прававы інспектар прафсаюза РЭП Леанід Судаленка.***

Ён зазначыў, што звольненыя — машыністы аўтамабільных кранаў упраўлення механізацыі філіяла № 11 ААТ «Гомельпрамбуд» — падалі іск да наймальніка з патрабаваннем аднаўлення на працы, аплаты за час вымушанага прагулу і спагнання канчатковага разліку пры звальненні.

У гэтым выпадку гэтае патрабаванне закона не выкананае, значыць, звальненне будзе прызнанае незаконным. Пра гэта таксама сведчыць судовая практыка, пра гэта ідзе гаворка і ў пастанове пленума Вярхоўнага суда. Звольненыя работнікі сталі членамі нашага незалежнага прафсаюза РЭП, я буду адстойваць іх інтарэсы ў судзе і ўпэўнены, яны будуць адноўленыя на працы», — падкрэсліў ён.

Юрыст дадаў, што пасля падачы іску ў суд у інтарэсах работнікаў былы наймальнік ужо разлічыўся з імі, перавёўшы сумы канчатковых разлікаў на іх картрахункі ў банку.

*БелаПАН*

- Забудзься ўсё, што ты вывучаў у інстытуце, табе гэта не спатрэбіцца.
- Я не навучаўся ў інстытуце.
- Тады Вы нам не пасуеце, нам патрэбныя людзі з вышэйшай адукацыяй.

# У мазырскім ТАА «Лотас» затрымалі кіраўніцтва. КДБ адмаўляецца ад каментароў

***Камітэт дзяржбяспекі не каментуе інфармацыю пра затрыманні ў мазырскім ТАА «Лотас».***

«У мяне няма інфармацыі. Наша праца складае дзяржаўную тайну», — заявіў начальнік прэс-службы КДБ Дзмітрый Пабяржын.

«У вытворчасці абласнога ўпраўлення Следчага камітэта такой крымінальнай справы няма», — адзначыла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Разам з тым жыхары Мазыра актыўна абмяркоўваюць затрыманні кіраўнікоў буйнога прадпрыемства. «Бралі будынак людзі ў масках, як у кіно. Выносілі тэхніку, камп'ютары», — паведаміў жыхар Мазыра, які пажадаў застацца неназваным.

У «Лотасе» не каментуюць сітуацыю, адсылаючы за падрабязнасцямі ў цэнтральны апарат КДБ. Вядома, што ўжо прызначаны выканаўца абавязкаў генеральнага дырэктара. Да 29 лютага рахункі прадпрыемства былі арыштаваныя, у апошні дзень зімы арышт быў зняты, і супрацоўнікі прадпрыемства атрымалі зарплаты.

Раней у Мазырскі райвыканкам паступалі скаргі ад работнікаў прадпрыемства на затрымку заробкаў.

Асноўнымі відамі дзейнасці ТАА «Лотас» з'яўляюцца праектаванне і ўзвядзенне будынкаў, мантаж і рамонт тэхнічных прылад, што прымяняюцца на небяспечных вытворчых аб'ектах, на якіх выкарыстоўваецца абсталяванне магістральнага трубаправоднага транспарту, здабыча пяску сілікатнага адкрытым спосабам, міжнародныя і ўнутрырэспубліканскія перавозкі аўтамабільным транспартам, выраб піламатэрыялаў, выраб мэблевай і сталярнай прадукцыі.

Заказчыкі прадпрыемства — ААТ «Мазырскі МНПЗ», РУП «Гомельтранснафта Дружба», ПУП «Захад-Транснафтапрадукт», «Белаграпрамбанк», Нацыянальны парк Прыпяцкі, Петрыкаўскае УКБ, Мазырскае УКБ, УПП «Белтрансгаз», РУП «Беларускі металургічны завод».

*БелаПАН*



# Каханне на ўсё жыццё. ТОП-5 він ад якіх не стогне гаманец. "IQ"

У Вас засталася яшчэ хоць кропля годнасці? Тады, калі ласка, да апошняга пазбягайце пладова-ягадных вінаў. Але калі апошні рубеж ужо пройдзены, то вазьміце хаця б гэта. Цана ў яго прыкладна такая ж, як і ў вінаградных – ~ 37 картох за 0.7, а склад абсалютна невядомы – нам яго на этыкетцы знайсці не атрымалася. Але гэта не павінна Вас турбаваць, бо на смак яно годнае і водар яго не адпуджвае, па меншай меры, адразу.

На гэтым топ скончваецца, а Вы выбірайце, спрабуйце, пашырайце гарызонты сваіх смакавых адчуванняў і атрымлівайце асалоду ад жыццём. І памятайце: бутэлька выглядае самавіта, у tetra-pak-е аб'ём больш, а дазвол вечнай праблемы «што ж узяць» ўсё яшчэ за вамі.

*Rachok Genious*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Сакавік 2016-2»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva

Наш **e-mail:** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA